

Анатоль Дэбіш нарадзіўся ў 1962 годзе ў в. Шамятоўка Свіслацкага раёна. Пасля заканчэння Мінскага інстытута культуры жыве ў Брэсце, працуе дырэктарам Дома культуры. Вершы друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Беларусь», «Крыніца», альманаху «Дзень паэзіі», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». «Калядная вячэра» — так называўся яго паэтычны дэбют у бібліятэцы часопіса «Маладосць», дзе вершы Анатоля былі змешчаны разам з вершамі яго брата Васіля Дэбіша.

*Ці зразумець: першых красачак веснія сны,*
*Сонца праменні, што душы імкнуцца сагрэць,*
*Ворага ўсмешку і сябра пагляд ледзяны —*
*Ці зразумець?*

# ПАЭЗІЯ — НАЙМЕННЕ БЕЗНАЗОЎНАГА

Ці быў заняволены, абмежаваны дух нашых далёкіх продкаў, якія адушаўлялі кожнае дрэва, птушку і звера, сонца і вецер, кожную з’яву на зямлі і ў небе? Іхняе спасціжэнне свету не было занадта рацыянальным нават у побыце, яно грунтавалася на першародных пачуццях радасці і смутку, страху і гневу, удзячнасці і замілавання. Іхнім светапоглядам быў вобраз, а вобраз і ёсць аснова паэзіі, мастацтва.

Думаю так, перачытаўшы вершы Анатоля Дэбіша, сабраныя нарэшце ў адну, асобную кніжку (многія з іх змешчаны ў часопісах, альманахах, у зборніку, выдадзеным сумесна з братам Васілём Дэбішам у серыі «Бібліятэка «Маладосці»). З імкнення пазнаць таямніцы быцця, даць вобразнае найменне састаўным яго часцінам народжаны гэтыя творы. Яны — суб’ектыўныя, як у паганскіх продкаў, адчуванні паэта, імпрэсіі, шчымліва-роздумны стан душы, навеяныя неабавязкова ўзвышанымі, але адухоўленымі рэаліямі: журліваю восенню, згадкамі пра маленства і маці, незнаёмым горадам і проста самотным пакоем, касцельнымі ды царкоўнымі дворыкамі, бяздонным зорным небам ці завейнаю куламессю. Скрозь прымружаныя павекі, скрозь імжу-слязінку бачыцца паэту мінуўшчына, гісторыя краю, вельмі сівая яго даўніна:

Быццам цень лясной гадзюкі —
Ноч… Малюся ёй у сне.
Стодзіваў паганскіх рукі
Абвіваюць зноў мяне.

Усё, чым праяўляе сябе Сусвет, прапускаецца аўтарам праз космас уласнай душы, нават зямная, з жывой плоці жанчына-каханка ўспрымаецца ім як госця з адвечнасці, абагульняецца да міфа, містыфікуецца.

Між тым бытуе думка, што старажытнае светаўспрыманне, міфалогія не могуць спрыяць адраджэнню духоўнасці, што гэта здольнае зрабіць толькі хрысціянства. Маўляў, таму нельга захапляцца старасветчынай Перунамі ды Лесунамі, Купаллямі ды Дзядамі. Але ці не супярэчыць

такое меркаванне псіхалогіі і характару беларуса, які і хрысціянскага Бога, адзінага і ўсёмагутнага, называе панам? («Упалі з грудзей пана Бога...»— М. Багдановіч). І чаму павінны мялець сёння нашы адвечныя крыніцы фантазіі і паэзіі — міфалогія і фальклор, адны з найбагацейшых у свеце?

Анатоль Дэбіш дзе інтуітыўна, а дзе і свядома падпарадкоўваецца «геннасці» нацыянальнай духоўнай культуры, адсюль і назва зборніка, і асобны цыкл міфалагічных вершаў. Зададзенасці і знарочыстасці тут няма, аўтар застаецца сучаснікам канца XX стагоддзя, у якім традыцыя не можа існаваць у чыстым выглядзе (і слова «стодзівы» ў інтэпрэтацыі паэта — гэта не проста «паганскія ідалы», а шматаблічнасць жыцця і свету). Аднак у адрозненне ад эксперыментаў многіх сучасных «авангардыстаў» у А. Дэбіша традыцыя не разбураецца, а дапаўняецца і абнаўляецца. Язычніцкія ўяўленні і хрысціянскія ідэалы «сужываюцца» ў ягоных творах і не супярэчаць адзін аднаму,— напрыклад, у «Каляднай вячэры»:

Там - здратаваныя душы ляцяць на шпалеры,
Каб у святочных карунках мілосці і цуду
Зноўку здабыць сваю моц,—
свята тайнай вячэры,—
Дзень наш ачысціць ад зла,
і ад змроку, і бруду.

І дзякаваць усім багам, калі па-ранейшаму нам, беларусам, ёсць што мадэрнізаваць! Гэта азначае, што мы здатныя не згубіць сябе, не растварыцца ў агромністым моры еўрапейскай і сусветнай культуры.

*Алесь Каско*

# МАЛІТВА І МОВА

## МАЛЕНСТВА

У хаце пахне льном і воўнай —
Я духам тым наскрозь прапах.
А ў грубцы танчыць неўтаймоўны
Хлапчук з жарынкамі ў вачах.

На стол матуля ставіць стравы,
Агонь ускінуўся ярчэй.
І засмяяўся хлопчык жвавы
З жарынкамі замест вачэй.

## ЦІ ЗРАЗУМЕЦЬ?

Ці зразумець: куды коціцца поўня між хмар,
Падае знічка, стаміўшыся ў небе гарэць?
У сэрцы збалелым кахання апошняга жар —
Ці зразумець?

Ці зразумець: першых красачак веснія сны,
Сонца праменні, што душы імкнуцца сагрэць,
Ворага ўсмешку і сябра пагляд ледзяны —
Ці зразумець?

Ці зразумець: сум паэта ля роднай мяжы,
Песню якому ўжо даспяваць не паспець.
І на кладах ставяць свечку чаму і крыжы —
Ці зразумець?

У ланцугу хуткаплынных імгненняў і дзён,
Дзе ўсё няіснае, дзе толькі існая смерць,—
Волю губляю, да гвалту трапляю ў палон...
Ці зразумець?

Мне ці лістотай кружляць па-над роднай зямлёй,
Зоркаю ззяць, ці між хмар перунамі грымець,—
Каб цалаваць твае вусны і стан мілы твой?..
Не зразумець.

* * *

> На чыстым аркушы, прад вузенькім акном,
> Прыгожа літары выводзіць ён пяром.
>
> *Максім Багдановіч*

Калі ноч ляжа покрывам чорным на нівы
І ў маўклівай цішы ўзыдзе месяц між хмараў,—
Добра думаць тады і пра светлае марыць,
У час гэты — я мужны душой і шчаслівы.

Адыходзяць паволі сумненне й трывога,
І здаюцца нікчэмнымі лёсу турботы.
І не мае больш сэнсу: адкуль ты і хто ты —
Ці трызнення выява, ці Дух існы Бога.

І знікае прастора… Час цячэ нетаропка,
Каб у іншай выяве аднойчы уваскрэснуць
Альбо зліцца ў адну невялічкую кропку,
Што жыццём назавецца ці смерцю злавеснай.

Есць магічная сіла а гэтай часіне;
Тады ручку бяру і выводжу старанна
Знакі, літары, лічбы… Пакуль светлы ранак
У будзённасць — у тлум і пакуты — не кіне.

**ЗГАДКІ**

Я чую вятрыска жалобныя спевы,
Што сцюжным дыханнем зямлю ахінае,
І зорамі сыпле на дахі і дрэвы,
І згадкі ў душы абуджае.
І я адплываю ў краіну маленства,
Дзе лётаюць дзеці, нібыта анёлы,—
На рэчку ці проста на ўрокі, да школы,
І з Богам у кожнага з іх падабенства.

І мроіцца мне мая хата старая:
Матуля, што бульбіны ў кошык збірае,
І сажай запэцканы кот
Ляжыць каля печы, замружыўшы вочы,
Аб нечым салодка-салодка вуркоча
І лапкі падклаў пад жывот.

І бачу я сад, дзе сусед нехлямяжы
Вартуе штоноч, ні на міг не прыляжа,—
Салодкія вішні, бы мёд.
На золку, як сонейка ўзыдзе над нівай,
Ён бачыць, што зніклі і вішні, і слівы,
Ашчэрыўся дзіркаю — плот.

Бабуля згадаецца мне гэтым часам.
У сенцах — валізка; там поўна каўбасаў,
Што пахнуць смачней і смачней...
І кій, як бабуля, увесь сучкаваты,—
За нашы бязвінныя ўчынкі адплата —
Нас гоніць у хату хутчэй.

Прымроіцца мне краявід Ваўкавыска,
Дзе кожная сцежка і кожная рыска
Знаёмыя зроку майму.
Шляхі тут маленства, тут — кут мой гаючы.
І сэрца ізноў зашчыміць так балюча,
І стане так сумна... Чаму?

Чаму? Не знайсці мне адказу ніколі.
Я чую: вятрыска галосіць у полі,
І сцюжаю нішчыць красу,
І зорамі сыпле на дахі і дрэвы,—
І гэтыя сумныя, вечныя спевы
Мне даўнія згадкі нясуць.

* * *

І змрок у міг адзіны з сонцам зліўся,
І слых — у лёгкі гук ператварыўся,
І слова — стала музыкай для нас…

Мінаў я лес, дзе хлуд ляжаў і смецце,
І крумкачы крычалі хціва ў вецці,
Дзе спаў на хмары — хлопчык птушкапас.

Звінелі промні нада мной навокал…
Я азірнуўся… там, паміж аблокаў,
Маленькі хлопчык дудку майстраваў.

Траву шчыпалі авадні і восы…
У дудку дзьмуў натхнёна хлопчык босы…
Была вясна… Я ў ім — сябе пазнаў.

* * *

Зімовых вечароў сняжок згусцелы
Малітваю сумётаў белапенных
Замружыў дол, як насланнё, імгненна,—
Свет апрануў увесь у саван белы.

І з нішаў мармуровыя анёлы,
Пакінуўшы свой кут, на дол застылы
Зляцеліся на снег перад касцёлам,
Разветрылі свае цяжкія крылы.

А па кладах, па вуліцах знямелых,
У прыцемку згусцелым сутарэнняў
Загойсалі чыесь нямыя цені —
Адныя ў чорным, а другія ў белым.

Ды ўсё захутаў снегавейны вэлюм,
І ў шале ветру задрыжалі дрэвы,
І да святла памкнуўся дух збалелы,
Дзе чуліся ўначы анёлаў спевы...

* * *

Майстэрня на вуліцы Скарыны.
Імжыць за акном. Не заснуць.
Прахожых здранцвелыя спіны
У ноч безупынна плывуць.

На сталі маўклівую бэльку
Вяроўка ў засілле ўзяла.
Паблісквае цьмяна бутэлька
З пакрытага пылам стала.

І кожнаю жылкаю б’ецца
Адчай аб гарачую скронь.
І смехам цагляным смяецца
У грубцы вар’яцкі агонь.

## КАЛЯДНАЯ ВЯЧЭРА

Хутка — вячэра. Дзень адплывае ружовы
За небасхіл, дзе ў зацішку маўчання і стомы
Новы абсяг паўстае, шчэ вачам невядомы,
У вечных пакутах нязнанай малітвы і мовы.

У шарым паўзмроку, дзе ўтоены жарты і кпіны,
Дзе ліхтары свае сочаць штохвілю ахвяры,
Вэлюмам чорным ахутаны плечы ў хацінаў
І па кутах там памерлых схаваныя твары.

Там — здратаваныя душы ляцяць на шпалеры,
Каб у святочных карунках мілосці і цуду
Зноўку здабыць сваю моц,— свята тайнай вячэры,
Дзень наш ачысціць ад зла, і ад змроку, і бруду.

**СЯЧКАРНЯ**

Кола сячкарні круціць нажы няўмольна,
Усё паглынаючы ў несупынным тым руху —
Травы і кветкі, колеры фарбаў свавольных,
Ператварыўшы ў смецце і пацяруху.

Веку і часу майго няўмольнае кола,
Колькі ты лёсаў людскіх і надзеяў змалола
У пашчы гісторыі, на раздарожнай мяжы?..

Вось і цяпер рухавік твой хады не збаўляе,
Новыя зёлкі, і травы, і... НАС паглынае...
Кола сячкарні круціць прысуду нажы.

## ВЕЧАР

Праменнямі сонца за шаты далёкага бору
чапляецца вечар, і горад, адкрыты вятрыску,
павольна змаўкае, настройвае струны сабораў
на песенны лад, як матуля ў маленстве калыску.

П’яніць цішынёй, і расквечвае вокны сцягамі
агнёў каляровых, і песціць людзей прахалодай,
і зоркі-вяснянкі запальвае над купаламі,
каб ім не было ані ліку на свеце, ні зводу.

Па вуліцы крочу… Пра вёску, пра дом — мае мары
дзе спелаю яблыняй туліцца вечар да плоту…
Званы загулі. І ляціць аж да неба, за хмары,
самотная песня — пачатку няма таму лёту.

* * *

I думнасць спраў, і думак чысціня,
I літасць, і двурушнасць, і пакора,
I горшая за краты — дабрыня,
I дзень — як ноч, чарней за плаху — гора.

Тут з праўдай парадніласся хлусня,
Там здрадай падмяняецца сумленне.
Знайсці б мне існасць да пачатку дня
I не паблытаць вечнасць і імгненне.

Сябе знайсці, павязку скінуць з воч —
Каб дзень быў днём, была каб ноччу ноч.

## НОЧ

У шэрых хмарах зорка блісне
І згасне ў поцемку начы.
І гэтак глуха і няісна
Пугач у нетрах пракрычыць.
І стане ціха… У зняменні
Спынюся ў пушчы на імгненне
Сярод замшэлых чорных дрэў
І буду чуць травы шаптанне,
І ў гнёздах — птушак шчабятанне,
І ў вершалінах — ветру спеў.
У думак прывідным палоне
Згадаю родны дом і гоні,
І маці цёплыя далоні,
І на падворку бацькаў крок,
І сад, што ў аксаміце тоне…
Ды ночы воглае бяздонне
Мяне абудзіць незнарок.
І ў шарых хмарах зорка блісне
І згасне ў поцемку начы,
І зноўку глуха і няісна
Пугач у нетрах пракрычыць.

* * *

Храма нябескія рысы бачу праз кужаль туману,
Ззянне крыжоў між аблокаў, важкую цэглу муроў.
Чую людзей галасы, звонкія гукі аргана,
Песні пра боскую літасць, пра час, што яшчэ не прыйшоў.

Сэрцу спатолі няма... Гоніць удалеч самота.
Можа, у храме збавенне знайду між людзей?
Дзверы адчынены насцеж... Пах парафіну і поту
Цела і ДУХ мой узносяць вышэй і вышэй.

Да купалоў і да зор ці да Бога самога
За цеплынёю душы й разуменнем людскім.
Вочы расплюшчу... навокал — нікога:
Сцены, акно і халодная восень за ім.

О, як пакутна ад сну абуджацца на золку,
Ў яву вяртацца, мары аддаўшы на здзек...
Ў небе начным дагарае апошняя зорка...
Зноў да пакутаў зямных крочыць табе,
Чалавек!

**ІСЦІНА**

1
Што ісціна? Прывід, нябачны вачам,
Падмурак свядомасці, дзе аніколі
Не ўзнімецца вечнасці праведны храм,
Ці, можа, пачатак самоты і болю?

2
Мо ўлада — багацця і велічы знак?
Адкуль тады — войны, тэрор і рэпрэсіі?
Ахвяру знішчае сваю ваўкалак
І верыць, што ісціна ёсць толькі ў лесе.

3
А можа — каханне, што сэрцы агнём
Пячэ, не дае ані сну, ні адхлання?
Ды зоркі не свецяць і ноччу і днём,
І існым заўжды, не бывае каханне.

4
Што ж ісціна?
БОГ І КАХАННЕ І СМЕРЦЬ...

**МЕЧ**

Халоднае лязо навек з'яднана з целам —
П'е прагна кроў злачыннасці дзіцця.
Слязой чырвонай боль па скрутку сталі белай
Сцякае... І вяртае з небыцця

Абуджаныя ў пругкім целе сілы,
Што ў забыцці драмалі столькі дзён.
П'юць вусны кроў... Дрыжаць стальныя жылы
На полі бітвы нечы стогн чуцён.

Ды ўсё знішчае хуткаплынны час:
Бляск на мячы даўным-даўно пагас.
Не заўважае меч ні часу, ні людзей —
П'е, прагны, ён густую кроў з грудзей.

**МАНКУРТ**

1
Пад нетрамі чужацкай скуры,
Пакінуўшы свой зрок і слых,
Блукаю, горды і пануры,
Шляхамі вулачак пустых.

Адзін, мярцвяк — сярод жывых.

2
— Манкурт,— крычаць мне наўздагон,
Ды мне прыемны гэты сон,
А ява — у агні дрымотным
Няхай датлее... І, самотны,
Іду ахвотна я ў палон.

3
Улада рушыцца і трон,
І вас ужо вядуць на скон —
Таго, хто розум меў і веру.
Крычыць мне наўздагон з-за крат
Не чалавек ужо — вар'ят,
Падобны стодзіву ці зверу.

4
І галаву сцінае кат.
Няма вяртання ўжо назад —
У роў або ў чужынца скуру.
І вось ужо і ты манкурт,
І ты ў адзін загнаны гурт,
Адну сям'ю, адну культуру.

5
«Манкурт»— сабе пяю я оду.
Хай гінуць нацыі, народы —
Чужынец косіць, бы траву.
ЖЫЦЬ БУДУ Я, манкурт пануры,

Пад нетрамі чужацкай скуры.
Пакуль я мёртвы — я жыву!

**ЧАС**

Чэрап счарнелы на мокрым пяску.
Сочыцца час праз вякі няўмольна.
Ноч навакол. На іржавым цвіку —
Кроў. Па ўсім — я ступаю павольна.

Божа, адкуль гэты чэрап і кроў?..
Можа, тут ДУХ мой самотны блукае.
Сочыцца час праз мяне і сяброў.
Нехта па мне неадольна ступае.

* * *

Восень. Ціша. Ні гуку.
Пахнуць садам платы.
Як жывы, грэе рукі
Матчын цень ля пліты.

Нібы горычы вырак,
Стыне ў далях шаша.
Адлятаюць у вырай
Лісце з дрэў і… душа.

## УСПАМІН

У палоне змрочных дум і мар неверагодных,
Зняверашы жыццём ужо каторы раз,
Блукаў я — нібы здань — самотны і свабодны...
І ветах не свяціў. І супыніўся час.

Навокал плыў натоўп — зняможаны і хворы,
І горад засынаў з надзеяй аб вясне.
І думаў я тады: усіх чакае морак,
Як і чакае ён,— у пэўны час мяне.

Мо й добра. Бо ж усе ад Бога адракліся:
Ні ласкі, ні цяпла, а толькі — забыццё...
А розум мне падказваў: супыніся,—
Такі наш лёс зямны і нашае жыццё.

Мацуйся і жыві... І час міне пакутны...
І ісціна тады нахлыне, як патоп,
І прыйдзе адкрыццё... Ліў жоўты дождж атрутны...
...Бы мёртвая рака, халодны плыў натоўп.

## НА МАЛЬБЕРЦЕ

Майстэрня. Ноч. І цьмяна ззяюць свечкі.
Мальберт застыў… А толькі поўні кола
свой доўжыць рух на сценах, на падлозе.
Жуе мастак шчэ недаспелы яблык.
Рука яго выводзіць фарбы лета:
маленькіх птушачак, рамонкі, твар дзявочы,
а я чытаю на мальберце: смерць.

* * *

I тлумна, і сумна навокал.
Хто ў свеце цябе адшукае?
I ветах, жабрак адзінокі,
Тужліва між хмараў блукае.

I толькі далёкія зоры
Карункамі ясак агністых
Пра свет мне нязнаны гавораць
Так мудра, так светла, так чыста.

* * *

І раптам небасхіл хіснецца на імгненне
І рухне на зямлю… І ночы чорны пыл
Сутоннем хісткім ляжа на каменне,
На храмы і дамы, і на крыжы магіл.

І цемры шары змрок ахутае палеткі…
Ды скрозь імглу і пыл убачу раптам я:
Бурштынам залатым мігцяць сузор’яў кветкі,
І воблакам плыве да іх душа мая.

## ВЯСКОВЫ ЭЦЮД

Мокры асфальт,
    тлумны бляск ліхтара,
Дахаў няіснасць,
    рыпенне вядра,
Вокнаў замглёных неонавы баль,
Тэлеантэны скразная скрыжаль
І праз палі да нябёсаў — шаша.
Поле, дзе падчаркай ходзіць душа,
Дом — дзе самотна іграе сурма,
Толькі да дому вяртання няма.

У дзверы пастукаю — ціша ў адказ.
Вокнаў неонавы баль, судны час.

**У СКЛЕПЕ**

Тхне бульбай гнілою і згубай з яго сутарэнняў,
Прыступкі кручастыя песцяць душу халадэчай,
У прыцемку ночы хаваюцца нечыя цені,
Нябачныя духі хапаюць за рукі і плечы.

Ніжэй і ніжэй я спускаюся ў морак ягоны,
Дзе ў сподах шкляных памідоры самлелі і слівы,
Дзе ў ціхай аблозе, ахвяры чакаючы скону,
Павук павуціння расчэсвае дрогкія грывы.

Імгненне — і я са сцяной сутыкнуся ў цямрэчы.
Празяблай рукою кранаюся чорнай паліцы,
Там — слівы і вішні, а ў слоіку побач — суніцы.

Ды нехта паклікаў... Той крык прагучаў недарэчы.
Руку я расцяў, нібы стрэмка ўпілася мне ў цела,
І долу душа мая сподам шкляным паляцела.

## ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ

Зімовы дзень. Скупою меркай
Жыццё адлічвае хвіліны.
Глядзіцца ў цьмянае люстэрка
Замерзлай лужы — куст шыпшыны.

А свет такі надзіва белы,
Бы чысціня адна на свеце.
Самотна дрэмле сад згалелы,
На плот паклаўшы рукі-веццe.

Іду. І ў цішы крок нямее.
Чуцён скрып снегу пад нагамі.
Цалуе рукі, твар — завея,
Чароўнай ласкай, дзівам-снамі.

**ЭЦЮД**

Засохлі краскі на стале.
Гадзіннік ціхкае паволі.
Вясёлкаю начнік са столі
Люструецца на цьмяным шкле.

Як кот, скудлаціўся хаднік.
Фіранка матылька палюе.
Сабака да дзвярэй прынік
І цішу слухае начную.

* * *

Шарэе. Свой кінуўшы позірк навокал,
Праз слоту імжы і дажджу заўважаю,
Як там, між аблокаў, далёка-далёка,
Агністае сонца праменнямі грае.

І як матылёк, за хвіліну да згубы
Над хвалямі соннага возера ўецца.
А на вершаліне магутнага дуба
Жаўцее лісток, вось-вось долу сарвецца.

Так добра хвілінаю гэтаю крочыць
Па мокрай траве, што яшчэ не завяла
І песціць пагляд свой абрысамі ночы
І дня, што душу саграваў… і не стала.

* * *

Звон разбітага шкла: ані енку, ні крыку,
Толькі цень за акном,— цень нямы, без’языкі
Прамільгне ды нікога сабой не абудзіць.
Будуць спаць па кватэрах стамленыя людзі.
Аж да золку ляжаць будзе ён нерухома
Ля пад’езда нямога, халоднага дома.
Нехта пройдзе наўзбоч і з агіднай усмешкай
Прэч, далей паспяшае пясчанаю сцежкай.

...Ля нямога пад’езда ляжу нерухома.

## БАЛАДА ПРА ВОЛАТАЎ

У змрочным скляпенні, да зданяў падобны,
Сядзіць анямелы, гаротны народ,
Не бачыць ён сонца, бо зыркія промні
Яго не кранали каторы ўжо год.

Уночы і ўранні, у свята і будзень
Адно толькі знае ён: есці і піць.
Былі гэта колісь магутныя людзі,
Ды вораг аднойчы прыйшоў, каб забіць.

І ўпалі яны перад ім на калені,
Апошнія дзеці магутнай зямлі,—
Спужаліся бітвы і ў змрочным скляпенні,
Дзе холад і цемра, прытулак знайшлі.

Пазбыліся ласкі, вясны і кахання,
І вершаў, і волі, і мовы сваёй.
І памяць згубілі: ні людзі, ні здані,—
Бы цені блукаюць яны пад зямлёй.

Па лёхах брыдуць чарадою бясконцай
І жудасным крыкам пужаюць людзей.
Ды выйсця не знойдуць да волі і сонца —
Каторы ўжо год і каторы ўжо дзень…

…Ды сонца заззяла, і рухнулі сховы…
І зноў, нібы дзесяць ці сотні гадоў,—
Яны прад усімі схілялі галовы,
Як статак пужлівых, сляпых пацукоў.

## НАШЧАДАК

А дзіды прабівалі грудзі,
І кроў лілася на траву.
Шапталі ворагі: «Не будзе
Ён болей жыць...» А я — жыву.

На белым матчыным абрусе
Дзялілі хлеб наш, соль і мёд.
Не жыць, крычалі, Беларусі,
Знік на вякі яе народ.

Гарэў палац... Іржалі коні...
На дол забіты падаў вой.
Чужынцы беглі ад пагоні —
І меч звінеў над галавой.

А сейбіт зноўку сеяў жыта,
Гаіла Беларусь сыноў,
І, тысячы разоў забіты,
Уваскрасаў я зноў і зноў.

**ВЕЦЕР**

Ён з жоўтых дрэў зрываў сухое лісце —
Удалеч гнаў і за сабой гукаў.
Па вуліцы бег… І не знаходзіў выйсця —
Пад коламі машынаў аціхаў
І паміраў, такі самотна-дужы…
Я на хвіліну запаволіў крок,
Здзіўлены тым, як зыбаліся лужы
Мільёнам хваль, драбнюткіх, як пясок.

**ПРАДЧУВАННЕ**

1
Бачу я горад чужы, незнаёмы і шэры:
Дахі дамоў, што травой параслі ды імхом,
Выбіты шыбіны і паламаныя дзверы,
Лёхі пакояў — пакрытыя смеццем і тлом.

Бачу: зламаныя дрэвы, засохлыя травы,
П’яны натоўп, груды чэзлыя спаленых кніг
І запусценне паўсюль — вынік сечы крывавай,—
Часу былога і прышласці — Вечнасць і Міг.

2
Люцыпар з’явіўся на баль, дзе спадарыня смерць
Спраўляе хаўтуры, у цесным пакоі жыцця,
З жаданнем адным — доляй душ чалавечых займець:
І скрушна смяецца ў ягоных абдымках дзіця.

І курчыцца хлопец ад болю — боль грудзі працяў,
І дзеўчына слодычна просіць: «Мяне пакахай!»
Забылася маці на дзетак сваіх і хаця
Не кінула іх — ужо мроіць пра зоркавы рай.

Там цемра і ноч, і няма ані слёз, ні турбот,
Люцыпар, і ён побач з ёю — каханы заўжды…
Я чую дыханне ЯГО… і ашчэраны рот
Мне шэпча штохвілю — ужо не пазбыцца бяды,—
Мне шэпча — змірыся і вечнасць спазнаеш тады…

Куды ні памяну — паўсюль яго бачу сляды.

3
Ноч — чарнейшая ад гругана.
Дня — няма.
     Вайна
брата з братам,
          проста так,

за грошы...
Голад. Вошы.

4
Праз іх шарэнгі я моўчкі крочу,
Да болю сцяўшы вусны, а вочы
Заплюшчыў, каб не пабачыць іх твараў...
Яны стаяць, нібыта пачвары,
Пасля — схіляюцца нада мною
І б'юць нагамі яны, героі,—
Афганцы, рускія ці яўрэі,—
За мову,
волю
і за ідэю.

5
Бліснe з нябёсаў святло, і душа
Цела пакіне і ўвышкі памкнецца да зор.
Покуль згарыць, на зямлі след пакіне спярша...
Толькі ці ёй адшукаць сярод цемры атвор?

Рана на сэрцы і твар мой абліты гразёй,
З кожнай хвілінаю ногі нямеюць, і боль
Ломіць мне цела і рукі... А там, за спіной,—
Цемра, і ноч, і падман, і людская юдоль.

6
І высахлі рэкі, сасмаглі палі без вады,
І птушкі пакінулі гнёзды, каб болей сюды
Ужо не вярнуцца... Каторы шукаю я дзень
Знаёмых і блізкіх, і ворагаў нават — сляды.
...Мінаюць імгненні, хвіліны, гады.

7
А мо нічога не было: ні нараджэння, ані смерці?
Быў — толькі сон, як забыццё, такі халодны і нямы.
А мо не людзі мы зусім, а так — звяры ці, можа, чэрці,—
Без пачуцця і без душы, а можа, мы — зусім не МЫ?..

І не цвітуць лугі наўкол, і не спяваюць птушкі песняў,
Плач не чуцён, не льецца кроў, не забівае брата брат,
І не ўзыходзіць над зямлёй, над родным домам — ранак весні,
І не губляе ўвосень лісце, каб зноў квітнеў вясною САД.

8
Краскі вясновых палёў і душы цішыня,
Сэрца маё паланілі вы з гэтага дня,
З першага дня, калі плач свой пачуў уначы...
Трыццаць гадоў як мінула ці болей, лічы,
Толькі ж у сэрцы маім і сягоння жыве:
Белае воблака, першы туман на траве,

Зорка на небе, што сэрца маё апякла,
Песня матулі і клёкат буслоў ля сяла,
Дождж за акном — маёй мары дзіцячай працяг,
Шлях да жыцця і да смерці, да вечнасці шлях.

9
Між зор начным я небам крочу.
Тут - ціша. Спее — Млечны Шлях.
І сэрцу незнаёмы жах,
Бо не адзін я гэтай ноччу.

Няхай пагібель мне прарочаць,—
Прамень надзеі не ачах.
Са мной — мой дом, каханай вочы,
Птушыны спеў і кветак пах.

Са мной — край родны, сэрцу мілы.
Ен моцы мне прыдасць і сілы
Любоў пранесці праз гады.

Узыдзе сонца ранкам веснім,
Мой край, я веру,— уваскрэсне,
З ім я ўваскрэсну назаўжды.

## ПЛЯЦ

Пляц, хворы астмай,— кашляе, раве—
Спазнаўшы боль, што недзе пад бетонам
І каменнем скаваны. ЁН — жыве,—
Пакутліва, адчайліва, са стогнам.

Не ведае ён, за чые грахі
Яго мяшаюць з потам, мясам, тлушчам,
І вірусна бурліць натоўп глухі —
Гатовы кожны міг яго раструшчыць.

Сабе часамі пляцам я здаюся,
Дзе злыя душы свой знайшлі бярлог —
Прысуд свой чыняць — у жальбе і скрусе,
Каб дыхаць вольна я і жыць не змог.

...Смяюся я і плачу, як паяц,
Схаваны пад бетонам душаў — пляц.

## РАССТРЭЛ

Урос я ў мур халодны і нямы.
Апошні раз глядзяць на сонца вочы.
Цяпер я — вольны, і няма турмы,
І знік, як прывід, морак чорнай ночы.

Больш гэтай не належу я зямлі,
Ды што з таго, калі мяне не стане?
Вось каты рулі стрэльбаў узнялі...
І я шапчу, шапчу сваё літанне.

Здалося, па спіне нібыта шчур
Прабег, і выбух апаліў мне скроні.
Праходжу скрозь нямы, халодны мур
Туды, дзе воля, дзе палі і гоні.

* * *

Дзяўчынку сустрэў я: твар песцілі сонейка промні,
Ля хаты, на траўцы, самотная, моўчкі гуляла.
Спытаўся ў яе: «Колькі год?» Адказала: «Не помню...
Ды многа, напэўна,— мне маці пра гэта казала».

Сустрэў я старога. Стаяў задуменна пад поўняй,—
Удалеч глядзеў без ніякай жальбы і дакору.
Спытаў: «Колькі год Вам?» І мне адказаў ён: «Не помню...
Старэйшы за рэчку і поле, за неба і зоры».

**САНЕТ**

Ізноў мне не да сну. Гляджу я ў морак стылы:
Паміж бязважкіх хмар застыла поўні кола.
На ёй, бы знак журбы, знак лёсу невясёлы —
Выява боская: «Брат брата ўзняў на вілы».

Варожасць і мана, куды ні глянь, наўкола.
Адолець іх ці хопіць духу, сілы?
Да Бога даляцець хацеў бы я анёлам,
Забыцца на жыццё. Ды паламаны крылы.

І мова знішчана, разбураны мой дом,
І толькі ночы змрок пануе за акном,
Між пушчаў і лугоў,— там дрэмле край мой мілы.

І — поўня нада мной... Я чую стогн слабы.
На поўні — лёсу знак, адвечны знак журбы,—
Выява боская: «Брат брата ўзняў на вілы».

* * *

Ен не ў зрэбнай кашулі — шыкоўна пашытым касцюме
Прыблукаў сярод ночы… Я дзверы яму адчыніў —
У пакой запрасіў і гарэлкі ў дзве шклянкі наліў…
Ён сказаў: «Каб ты ведаў, як жыць апастылена ў тлуме!

Есць сям’я. Есць работа. Ды толькі чамусьці не рад,
Бо чужыя наўкол. Толькі — золата, грошы, машыны…
У «псіхушку» звяртаўся. Сказалі: «Ты больш чым вар’ят,

А такіх не бяром, жыць такія на волі павінны».
Мне б — у лес да звяроў, мне б — да птушак,
мне б — неба глыток…»
«Не сумуй,— адказаў я,— лепш вып’ем, браток,
Ну, а там,— будзь што будзе…»
Да золку мы вершы чыталі.
Пазіралі на неба, гамонку пра зоры вялі…
Аніхто нас не чуў. Людзі соладка-соладка спалі…
На дварэ не світала яшчэ, па грыбы мы пайшлі.

**РАБ**

Штоночы, калі ў пакоі гасне святло, а за вокнамі
мільёнамі празрыстых светлячкоў успыхваюць зоркі,
я слухаю ЯГО…
ЕН прыходзіць апоўначы да мяне, сядае
на ўскрай ложка тварам да акна
і пачынае апавядаць,
як у чэраве маці быў ужо асуджаны на смерць
і выжыў толькі таму, што не згадзіўся са сваёй смерцю…
Пра астатняе ЕН маўчыць,
толькі час ад часу паўтарае: «Так трэба…»
Калі на золку ЕН знікае, я заўважаю ЯГО
падабенства са мною:
мае вочы зліваюцца з ЯГО вачыма,
вусны з ЯГО вуснамі.
І тады я міжволі паўтараю за ім:
«Так трэба…»

* * *

Натоўпу не будзеш ты любым ніколі,
Калі ты інакшых надзей і акраскі,
Бо ў іх ты вачах — блазен, прагны да волі,
З дзіцячай, надзіва, падманлівай казкі.

**КУРАПАТЫ**

**1. Аблога**
Ноч халодная… Крыкі і крокі,
Хтось нябачны стаіць за акном,
Нехта змрочны, чужы і высокі
Аж да рання вартуе мой дом.

У пакоі — адзін я. Лагодна
Ззяе ветах на небе… Маўчу…
І, прамоклы, худы і. галодны,
Безупынку за госцем сачу.

Хвілі часу — бы вострыя спіцы.
Жахам ноч маё поўніць жыццё.
І нябачная воку ігліца
Упіваецца ў сэрца маё.

**2. Уцёкі**
Я, знямоглы, паўзу праз туман
Да святочнай айчыннай дубровы.
І струменіцца кроў з маіх ран
На імхі і на дол вечаровы.

Жаўрукі не пяюць нада мной.
Толькі мне паміраць яшчэ рана.
Я стаміўся жыць праўдай чужой
Пад уладай забойцы-тырана.

Ды бліжэй да мяне ўсё тыран,
Чую подых яго нада мною.
Я, знямоглы, паўзу праз туман…
Дзень гарачай сплывае крывёю.

**3. Пакаранне**
Смерці выбраннік, ляжу я на пласе самотны,
Молячы Бога, каб даў мне цярпенне і сілы
Цвёрда ступіць у хаўрусную цемру магілы,

Жахі і роспач змагчы ў гэты час мой смяротны.

Дзень адплываў, дзень агнём дагараў незваротны.

Чуліся гукі трубы, пахавальныя спевы
Хору дзяўчат маладых… Вецер прагна разносіў
Спеў іх дзівосны па вулках… І гордая восень
Вецце зрывала, у злосці ламаючы дрэвы.

Чуліся крыкі праклянцця, надзеі і гневу.

Даў бы хто крыж — цалаваў бы за маці і веру.
Ды не пачуюць. І кроў на зямлі запяклася…
Не, не мая, а чужая. Уявіў я сякеру,
Што ў гэты міг над маёй галавой узнялася.

Я не адзін, нас мільёны ляжала на пласе.

Млосна зрабілася. Вусны мае задрыжалі.
«Гэта — усё…» Мітусіліся роспачна мроі…
З жаху прачнуўся я, кінуўшы коўдру і шалі
Прэч ад сябе… Гэта ж я ахвярую сабою.

Светла і ціха было ў халодным пакоі.

Я падышоў да акна… Залацілася восень.
У хованкі дзеці ў парку забаўна гулялі.
Дзед мой прыпомніўся мне…
Каляндарны лісток… 38 —
Год ракавы… Мы вяртання так доўга чакалі.
У трыццаць восьмым — яго расстралялі.

Смерці выбраннік, ляжаў на смяротнай я шалі.

**4. Нявінныя целы**

У нетрах, між карэнняў траў і дрэў,
Застыў дзявочы смех, жаночы спеў.
Замест вачэй глядзяць на свет вачніцы,

Ды ім не свецяць зоркі-вечарніцы.

Над імі ноч і цёмны бор шуміць,
І птушкі сон іх песнямі люляюць.
А стрэлы і сягоння не змаўкаюць,
І вусны неба прамаўляюць: «ЖЫЦЬ…»

**5. Вяртанне**
Тупат ног і шэпт літанняў…
Спалатнелы бачу твар.
То — вяртаюцца з выгнання
Душы мёртвыя ахвяр.

Рукі скуты ланцугамі,
Джаляць ногі кайданы.
Спарахнелымі рукамі
Сонца кратаюць яны…

І гучыць у наваколлі
Іхні шэпт, нібы набат:
«Дайце сонца! Дайце волі!
Нам абрыдзеў бразгат крат!..»

**6. Суд**
…І калі раскапаюць травою зарослыя ямы —
Выйдуць змрочныя здані да сонца з халоднай зямлі.
Загалосяць яны, зазвіняць на ўвесь свет кайданамі
І папросяць у Бога, каб катаў на суд прывялі.

Сотні, тысячы сотняў, мільёны нявінных ахвяраў,
Што здабычаю сталі знявагі і дзікай маны…
І збялеюць у катаў і ў служак іх сытыя твары,
І папросяць збавення і літасці ў Бога яны.
Ды адкажа ім Бог: «… Не суддзя вам…
    Вось вашыя суддзі.
Ім ваш лёс вырашаць, ім — над вамі чыніць свой прысуд…»
Нехта крыкне з натоўпу: «Даруйце ім, добрыя людзі!.. »
    …І даруе, усё ім даруе падмануты люд.

* * *

Жывому — блізкі, мёртваму — чужы,—
Праходжу па жыцця азначанай мяжы,
Каб зоркаю ў нябёсах растварыцца —
Яшчэ адной… хай паглыне нас морак —
Ды будзе зноў вясна, і будзе дожджык ліцца,
Як сотні год таму — без смутку і дакору…
Памерла ЦЕЛА.
ДУХ знаходзіць міражы.

## ЦІ НЕ АДНО?

У рэшце рэшт ці не адно і тое ж:
Быць нечым ці падпанкам, ці рабом,
Біць аб сцяну рукою
Ці ілбом?

Час перамогі велічнай ці здрады?
І хто страляе — ты або ў цябе?
Ці ногі паламаны,
Ці хрыбет?

Кахае хто ці, можа, зненавідзеў?
Ці жонкі, ці каханкі побач твар?
Ці рэзаць хлеб, ці вены,
Ці пачвар?

Ці Бог, ці д’ябал? Што з таго, скажыце?
Кватэра ці палац, а ці турма?
У рэшце рэшт —
Ці ёсць ты,
Ці няма?

* * *

Любіць народ? Але за што, скажы:
За здраду, за ману, за знішчаныя гоні
І што не ўмееш ты па-людску жыць,
Ад веку — пад ярмом, ад веку — у палоне?

Цябе такім — любіць я не магу,
Дый не любіць, забыць — не маю сілы.

Прэч ад цябе я кожны раз бягу…
І зноў вяртаюся… Так будзе да магілы.

# З ТВАІХ ДАЛОНЯЎ

## ЦЕНІ

У вогным пакоі, у поўні зіхотным мігценні
Па сценах маўкліва блукаюць знямелыя цені,
Брыдуць па пакоі і ў вокнах знікаюць дазвання
Апошнія сведкі няспраўджаных сноў і літанняў.
Вось так і жыццё праляціць у імглістым сутонні,
Бы гэтыя цені, мігне і навечна патоне.
Ды ёсць яшчэ час — час надзеі, вясны і кахання
Для пешчаў шчаслівых, для募раў і палкіх жаданняў.
Таму і не плачу я ў хвілю тугі і адчаю,
А ў рысах знаёмых адвечную існасць шукаю,
І пешчу надзеі, забыўшы на смутак і енкі,
І слухаю крокі прывабліва-юнай паненкі,
Што ў шолаху ночы, у поўні зіхотным мігценні
Вось-вось адплывуць, нібы гэтыя змрочныя цені.

**ЖЫВАПІС**

Сярод мноства пачварных істот і абліччаў знямелых,
Што ў адвечных пакутах зліліся ў адзіны клубок,
Бачу твар нехлямяжы і зыркі пагляд звар’яцелы,
Дзяцюка маладога і пекную панну ля ног.
І старога нябогі худыя, нязграбныя плечы,
І чужую каханку, і стол, і халодны пакой…
Размаітыя вобразы твараў знямелых і рэчы
У праменнях святла паўстаюць прада мной.
І магічнаю сілаю поўняць маю адзіноту,
І тугу абуджаюць, і жывяць зняверана дух.
І змяняецца гнеў у душы на любоў і пяшчоту,
Ясным поўняцца сэнсам тут кожная рыска і рух.
І прыходзіць адхланне… І цела, і дух ажывае.
І тады нараджаецца слова святое: «КАХАЮ».

## ЛЯ ПАБІТАГА ЛЮСТЭРКА

У сонечных промнях узнікла знямелая постаць:
Блакітныя вочы, дзе тояцца боль і журба,
Ні шоўку, ні фарбаў, і гэтак святочна і проста
На чорныя бровы спадае хусцінка з ілба.

Адкуль? Хто такая? У памяці светлай юначай
З якога вытоку яна так выразна ўсплыла?
Мо з гэтай дзяўчынай страчаў я світанкі над Начай?
Ці ў школе суседкай па парце яна мне была?

Чаму я не помню?.. На сэрцы так змрочна і пуста.
Так хочацца ласкі, спагады зямной і цяпла.
Знямелай рукою халоднае кратаю люстра...
Нічога.
І толькі — твой смех з-пад пабітага шкла.

## ВЫПУСКНЫ БАЛЬ

Пах парфумы. І скрыпкі чароўныя гукі.
І самотныя ўздыхі, і цёплыя рукі,
Што на плечы ляглі, нібы сонца на кроны.
І ва ўсіх, і ва ўсіх — залатыя кароны,
Што спляліся з надзеяў, памкненняў і мараў.
Смех і радасць — навечна застылі на тварах.

Колькі год, колькі часу з пары той мінула?
Не памерла, не знікла душа, не заснула.
Між турбот і грахоў, як загадкавы трунак,
І да гэтага часу твой смыліць пацалунак.

**КАХАННЕ**

З тваіх далоняў — сцякае ноч,
белая, як малодзіва,
як першы снег,
як наготкае цела,
абмытае расою
і аблашчанае рамонкавым полем,
ноч мілосці і цуду.
Ці не таму
твае вусны пахнуць бэзам,
а вочы так падобныя
на дзве зоркі-вяснянкі,
што нават праз слату дажджу
ззяюць мне?!

* * *

Кахаў… Як перуны хапаў
З нябёс халоднымі рукамі,
І да грудзей іх прыціскаў,
І разбіваў аб цвёрды камень.

Кахаў… За грыву вецер браў,
І запрагаў яго я ў сані,
І хмары-птушкі абганяў,
І ўспыхваў зоркай пры расстанні.

Кахаў… І голас твой гукаў.
І ад журбы згараў дазвання.
Усё жыццё цябе кахаў,
А тайны не спазнаў кахання.

* * *

Пісаў эцюд пра краскі лета.
Цвіў маладзік, плыла рака.
«Кахаю!»— вывела рука...
Пісаў эцюд пра краскі лета.

Калі было?— не помню гэта.
Што марна тыя дні гукаць?
Пішу эцюд пра краскі лета:
Ноч. Маладзік. Плыве рака.

**ТЭРЦЫНЫ**

1
У сне салодкім забылася ты на імгненне,
Ледзь дыхаеш, быццам пакінула сіла,
У стамленні паклаўшы на коўдру калені.

Няўлоўная ўсмешка на вуснах застыла,
Пэўна, сон абудзіў твае светлыя мары,
І прымроіла ты вобраз даўні і мілы.

Поўна ў сэрцы тваім яшчэ ласкі і жару,
Не зраклася яшчэ трапяткога жадання,
І галубіць душа твая светлую мару.

...Дзесяць год удава. Дзесяць год без кахання.

2
Выпіць вусны твае я жадаю да дна.
Бы ў хуткім віры, у вачах патануць тваіх чорных.
Ты — каханне маё, ты — мая залатая вясна...

Нашых лепшых надзей, праз дзірван часу,
выспеюць зёрны.
І адбудзецца цуд, найвялікшы,— ты будзеш маёй,
Усё такой жа прыгожай наўздзіў і такой непакорнай.

...Па алеі мы крочым. І голас зрываецца мой.
І нямее ўсё цела. О, як жа цябе я кахаю!
Ты кранаеш мне руку сваёю пяшчотнай рукой...
Зноў, нібыта юнак, долу вочы свае апускаю.

* * *

Зайсці ў пакой зняможаным і хворым,
Акінуць зрокам столь і ложак, над каторым
Вісіць ЯЕ партрэт, затым — дыван, падлогу…
Зірнуць на пальцы рук… і не сказаць нічога.

* * *

Ляжыць нерухома на лаве ў святочным убранні:
Румянак на шчоках, усмешка застыла на твары.
Імгненне яшчэ, і здаецца, што вось яна ўстане
І пойдзе па хаце нячутна. Ды гэта ўсё — мары.

Жалобныя свечкі гараць, і панура паненкі
Схілілі галовы і шэпчуць малітвы да Бога.
А недзе ў суседнім пакоі заходзіцца енкам
Дзіця. І суцешыць не могуць суседзі малога.

* * *

Кніжку памяці зноў пагартаю паволі…
Недзе там, за сівою імжой далягляду,
Бачу бацькаву хату, чатыры таполі,
Што пагнуліся долу — стаяць без прыгляду.

На каменне абперліся целам струхлелым
Смаляныя, з пушчанскага лесу падрубы,
Паламаныя дзверы і сад белым-белы,
Бы нявеста, што пойдзе праз хвілю да шлюбу.

Нібы цёплыя-цёплыя рукі матулі,
Дні маленства. Пра іх не забыцца ніколі.
Дома ціха: і дзеці і жонка заснулі…
Кніжку памяці роду гартаю паволі.

## ТРЫЯЛЕТЫ КАХАННЯ

1
Праз сіта неба вечар зоры сее,
На голлі сад калыша цішыню.
На развітанне сонечнаму дню
Праз сіта неба вечар зоры сее.

Тваё дыханне цішыцца, слабее.
Я ў хаце не запальваю агню.
Любуемся, як вечар зоры сее,
І слухаем над садам цішыню.

2
Няма кахання чыстае красы.
Ёсць толькі мара, што душу люляе
І думкаю наіўнай забаўляе...
Няма кахання чыстае красы.

Ва ўсе вякі зямныя і часы
Таму й жывём, бо сэрца веру мае
Ў каханне самай чыстае красы,
Што душы ў марах прывідных люляе.

3
Праз пальцы лёткія твае
Цячэ пясок, пяе, бруіцца.
Ен сотняй зорачак іскрыцца
Праз пальцы лёткія твае.

Так — нікне час. І не стае
Жыцця, каб шчасцем наталіцца,
Што, як пясок, цячэ, бруіцца
Праз пальцы лёткія твае.

4
Люстэрка паглыне твой вобраз праз імгненне.
Апусціцца на дол халодная імгла.

Над гэтаю, што Ёсць, і тою, што Была.
Люстэрка паглыне твой вобраз праз імгненне.

І станеш марай ты, няўлоўным, хісткім ценем —
Народжаная сном з лятункаў і святла.
Ды веру ўсё-ткі я, што ты ў жыцці — была,
Няхай сабе і знікнеш праз імгненне.

* * *

Цішаю працяты, бы нажом,
Я стаю пад восеньскім дажджом
Горада, знаёмага да болю.
Тут прайшло каханне. Не збярог…
Памяццю мне змрок на плечы лёг.
Не вярнуцца… Не знайсці… Ніколі…

* * *

Чуеш, каханая, долу спускаецца вечар:
Чорнымі крыламі сад вечаровы калыша,
Рукі цалуе, у вусны ўкладвае вершы —
Ціша.

Подыхам лёгкага ветрыку па апусцелым пакоі
Крочыць маўчанне, нябачна кранае фіранку.
Поўня ўзышла і любуецца ў небе сабою
Да ранку.

Радасць расце, шырэюць і вокны і сцены,
І матылі, нібы птушкі, кружляюць над намі.
Чуеш, каханая, пахне на вуліцы сена —
Снамі.

Чуеш, каханая, як анямела дыханне?..
Каханне.

**ГОСЦЯ**

Ледзь поўнач прыйшла, на халоднай падлозе
З’явілася постаць чыясь і ў знямозе
На ложак, што мятай прапах і крухмалам,
Бясшумна на коўдру халодную ўпала.
І пальцаў адчуў я загадкавы дотык,
І цела, прапахлае лесам, пяшчотай,
І вуснаў дыханне, што ў чорнай цямрэчы
Агнём апяклі мне і шыю, і плечы.
І сэрца маё паланіла знямога,
І сцены наўсцяж паплылі, і падлога.
І я ў забыцці прашаптаў і ў адчаі
Збалелымі вуснамі: «Чуеш, кахаю!..»

Ледзь сонца кранулася промнем фіранак,
Нячутна пайшла тая дзеўчына ў ранак,
На ложку пакінуўшы побач са мною
Букецік рамонкаў, пах мяты і хвоі.

* * *

Сустрэча. Вечнасць. Пацалункі.
Расстанне. Мары. Дзіўны сон.
Сям’я. Развод. Будзённасць. Клункі.
І зноў — надзея. І — палон.

Самотна. Горыч. Аняменне.
Чужая зайздрасць. Дзеці. Дом.
Каханне. Мары. Вечнасць. Тленне...
Сустрэча. Вечар за акном.

* * *

Прыйшла... І супыніла часу рух,
І зноўку абудзіла боль таемны,
Мне сэрца паланіла колам рук
І роем填 мараў-сноў невераемных.

І мы — з табою, сёння мы — адно,
Палоненыя слодыччу кахання.
П’яніць нас ноч, як пахкае віно,
І не дае заснуць ажно да рання.

Юнацтва... згадкі... маладыя наіў...
Ці калі-небудзь здолею забыцца,
Як прагна я з тваіх далоняў піў
Лятунак ночы?.. І не мог напіцца?..

**РАССТАННЕ**

Крык учарнелы ляціць праз пустэльную вулку,
праз празрыстыя вочы вокнаў,
праз набрынялыя першым вясновым сокам лёхі дрэў
і… разбіваецца аб чорную стужку асфальту.
Пад коламі машыны ў пакутах курчыцца душа.

**ЖАДАЮ**

О так, цябе жадаю я,
Табой, адной табой гарыць душа мая,
І не знайсці мне ад пакут адхлання.
Няхай усё — як сон, ілюзія, падман,
Але жадаю цалаваць твой твар і стан,
Быць знішчаным табой, не страціўшы жадання.

## ДВА ГАЛАСЫ

Прысніў яе. Убачыў: ля парога
Стаіць з мяхом чырвонцаў у руцэ.
Усё няўмольней ноч… А навакол нікога.
Яе далонь адчуў я на шчацэ.

«Ты думаў абагнаць свой тлумны час і век,
Падняцца ў неба сінь, вышэй, чым зоры,
Ды зразумець не змог ты, чалавек:
Ты — толькі цень быцця, каторы
На хвілю з'явіцца — і згасне ў той жа міг,
Не разгадаўшы сэнс жыцця зямнога.
Пакуль ты ёсць, пакуль сярод жывых —
Праз церні і гушчар ляжыць твая дарога,—
Так шэпча мне яна,— пайшлі са мной, нябога!..»

О цуд! Я чую голас звонка-срэбны.
Мелодыю яго я недзе сустракаў:
«Прачніся, любы мой! І не крыўдуй дарэмна…
Бач, сонца ўжо ўзышло… Як соладка ты спаў!»

* * *

Ты побач. І дзень дагарае.
Я крочу з табой за сяло.
Ноч нашу пяшчоту хавае
Пад цемры тугое крыло.

Нікога. Хіба толькі ветах,
Не ўбачыць праз сетку аблок,
Як чэзне дымок цыгарэты,
Як мы свой прыцішваем крок.

І як у адзіным дыханні
Зліваемся — поўнач і мы...
Разбудзіць нас летняе ранне
Павевам зімы.

## ТРЫПЦІХ ЖАНОЧАГА ЦЕЛА

### 1. Элегія жадання

О, рукі гэтыя мяне і ў сне палоняць,
Іх дзесяць доўгіх пальцаў — бы нажы,
І вострымі сякерамі — далоні.

Ты побач, ты са мной… і трэба жыць.
Пах мляўкі сена. Млосна. Не заснуць.
Нібы вужакі, косы абвіліся

Вакол мяне, і чую, кроў як п’юць
З маіх грудзей… О, што за тлум?.. На вуснах
Тваіх — пячатка смутку і святла.

Мяне цалуеш… Позірк твой распусны…
І цепліцца ў душы жадання плод —
Усё няўтольней целаў прыцягненне…

І забыццё і цемра. Холад. Лёд.

### 2. Сон

Маленняў дзіўны спеў мне чуецца ўначы:
О, то ў адзіны хор два галасы зліліся.
Усё бліжэй той спеў… Ад лёсу не ўцячы.

Два цені на сцяне: там дзве рукі спляліся,
І, нібы здрады знак, там месяц малады…
І жоўты папугай гуляе па падлозе.

Сустрэчы бачацца мне свежыя сляды:
Памяты летнік, незасланы ложак
І стужка з валасоў балюе на стале.

Няўжо тут нехта быў? Няўжо чужы я, Божа?!
Навошта ты тады «люблю» казала мне?!

О ноч, вазьмі мяне, апрыкла жыць на свеце...

А можа, усё не так? Не так, напэўна, не!

**3. Элегія цела**

Навокал ні душы, і толькі мы ў пакоі.
Дрыжыш уся... Застылы голас твой.
Палае жарам цела трапяткое...

Пагорачкаў грудзей кранаюся рукой.
Ускрык глухі душы... кароткі міг адхлання...
Два целы, што ў адно зліліся ім вякі.

О светлы гэты міг, чароўны міг кахання —
Абудзіць сэрца ён, растопіць ночы лёд
І зробіць неўміручым дух твой светлы...

...У чэраве тваім надзеі спее плод.

## AMO TE[1]

«Кахаю!» — гэты шэпт Вам не пачуць
І смутку ў позірку маім не ўбачыць.
Пра гэта толькі дрэвы ў садзе плачуць,
Ды вам і плач ніколі не пачуць.
Сабе кажу: пакінь Яе, забудзь,
Нічога не змяніць, не перайначыць.
Але і гэтых слоў Вам не пачуць,
Каб смутку ў позірку маім не ўбачыць.
Хоць выбралі Вы іншага для свята,
А я кахаць заўсёды буду Вас,
З надзеяй тайнаю, не напаказ...
Хай выбралі Вы іншага для свята.
Не, Вы перада мной не вінаваты
За тое, што сустрэліся не ў час.
Хай выбралі Вы іншага для свята,
Ды ўсё ж кахаць заўсёды буду Вас.
Кахаць я стану Вас і па-за светам.
Пра Вас і там я мроіць буду сны.
І ў тым няма зусім маёй віны,
Кахаць Вас буду я і па-за светам.
І хай Вы іншым жывяце паэтам —
І думкі і жаданні ў Вас адны;
Кахаць Вас буду я і па-за светам,
Пра Вас і там я мроіць буду сны.
Навек са мною Вашая душа,
Хоць цела Вы і аддалі другому.
Яна нясе адхланне мне і стому —
Навек са мною Вашая душа.
Калі мне лёс загінуць, дык спярша
Да вашага я завітаю дому,
Бо Вашая навек са мной душа,
Хоць цела Вы і аддалі другому.
Мне вечнасці не трэба, толькі б знаць,
Што побач Вы і ў сумную хвіліну.

---

[1] Amo te (лац.)— кахаю цябе.

З пагардаю ўспрыміце дамавіну:
Мне вечнасці не трэба, толькі б знаць…
І я Вас буду кожны міг кахаць.
Забраны лёсам, Вас я не пакіну.
Мне вечнасці не трэба, толькі б знаць:
Са мной Вы побач кожную хвіліну.
Мой Божа, я малюся, каб жыццё
Вам мужнасці зямной дало і сілы,
Каб Вашае не ўбачыў я магілы,
Маленні ўсе — за Вашае жыццё.
Вы для мяне — як сон і адкрыццё,
Мне ўсе гады Ваш вобраз несці мілы.
Таму заўжды малюся, каб Жыццё
Вам мужнасці Зямной дало і сілы.

* * *

Якую б на сэрцы ні песціў ты думу,
Якімі б шляхамі ні мкнуўся ісці —
Збавення няма, апроч смерці ў жыцці,
Ад вечных пакут і штодзённага тлуму.

Самоту затопіць на хвілю віно.
З душы бруд не змые: ні кроў, ні залева…
А вечнае — толькі каханне адно,—
Як сон і паветра, як неба і дрэва.

* * *

Белым вэлюмам з неба долу сцякае хмара.
Крочым па краі поўні… босыя… лёгкай парай
Млечны клубіцца Шлях, стынуць навокал росы.
Неба, мяне, зямлю — хутаюць твае косы.

# СТОДЗІВЫ

** *

Ціша... Чую плач сірочы.
Мроя гэта альбо не?
Стодзіваў паганскіх вочы
Пазіраюць на мяне.

Быццам цень лясной гадзюкі
Ноч... Малюся ёй у сне.
Стодзіваў паганскіх рукі
Абвіваюць зноў мяне.

Што за жахі, за хімеры?
Ноч куды мяне жане?
Стодзіваў паганскіх вера
Усяляецца ў мяне.

Ажываю, апантаны,
Апякае болем скронь.
Я цяпер і сам паганец,
З тых, што кінуты ў агонь.

## ЗНІЧ[2]

Чуеш подых гарачы агню
І ахвяраў жахлівыя крыкі?
І спалох бачыш духаў вялікі?
Гэта ЗНІЧ зноў прыйшоў на зямлю.

Ён не чэпіць адвечнай красы.
Ён з’явіўся на нівы і пушчы,
Каб ачысціць ад хлуду лясы
І ад бруду змярцвелыя душы.

Вось вымае агністы свой меч,
І няма ад яго паратунку.
І бягуць «душы мёртвыя» прэч,
Спехам кінуўшы грошы і клункі.

[2] Зніч — святы агонь у старажытных славян.

## МАРА

У адведкі з’яўляецца ўночы
Галаскурая здань да мяне.
І агнём яе свецяцца вочы,
І плыве яе цень па сцяне.

Аняменне і холад на твары.
Серабрыстая рунь валасоў.
Шэпчуць вусны замовы і чары,
Слых чаруе мелодыя слоў:

«Спі... Засні... Будзе вечнай самота...
У журбу адыходзь пакрысе...»
Шэпт сціхае... Ашчэраным ротам
Ведзьма кроў з майго цела ссе.

**ЧАРНАБОГ**

Калі, зняверaны, губляю я надзею
І мроіцца, што час прайшоў дарма,
Тады прыходзіць ЁН…
I ў сэрцы смутак сее,
І дух не выпускае мой з ярма.

Зрадніўшыся навек з маім дыханнем
І з розумам з’яднаўшыся маім,
Ен усчынае здзек з майго кахання,
Яго святлом напоўніўшы чужым.

Варушыцца ўва мне клубок пачварны
Хлусні яго атрутнай і жуды.
Збавення я прашу… ды гэта — марна…
І прэч я ад людзей бягу тады.

## ПЕРАПЛУТ[3]

Па горадзе пустым я брыў у позні час…
У лужынах адбіткі зор мігцелі,
І святлафор запальваўся і гас,
І нада мной віталі гмахам цені.

І ў гэты міг паміж бязважкіх хмар
Убачыў панны я увасабленне:
Яна плыла, далёкая ад тлення,
І яснай пекнатой яе свяціўся твар.

І затрымцеў я смуткам трапяткім,
Убачыўшы ўсё гэта… І здалося:
З зямлёю неба зорнае злілося,
І я адчуў цяпло яе рукі.

Ды раптам дзікі смех развеяў дзіўны сон,
І я пачуў світальны крык савіны,
І дзеда разглядзеў: між хмар куляўся ён,
Там, дзе плыла дзівосная дзяўчына.

---

[3] Пераплут — Бог весялосці, аматар «вырабляць» усялякія жарты.

## ДЗІЎ

1
І вечар быў. Я развітаўся
З краінай цемры і маны.
У родны горад зноў вяртаўся
З чужацкай змрочнай стараны.

Наўкол быў вэрхал і пажар.
На пляцы там, сярод народу,
Спазнаў ягоны мужны твар:
То ДЗІЎ быў — Бог зямлі і роду.

У цьмяным бляску ліхтароў,
Дзе трызны музыка гучала,
Канаў на пласе ён, і кроў
З ягоных ран на дол сцякала.

2
Увесь у чорнае адзеты,
Там кат крычаў: «О вы, паэты,
Зямлі нікчэмныя рабы —
Нашчадкі смутку і журбы.

Вы, што завецеся НАРОДАМ,—
Усе паслухайце мяне.
Ён, як і вы, хацеў свабоды,
Цяпер няхай навек засне».

3
...І грудзі катаў меч рассек...
Але ў апошняе імгненне
Ўскрыкнуў ДЗІЎ: «Найгоршы здзек
Жыць і памерці на каленях...»

Калі ж навек заплюшчыў вочы
І ў небыццё сплылі ўсе дні,
Пачулі крык яго прарочы,

Што знекуль падаў з вышыні.
То, небыццё праклаўшы, ДЗІЎ,
Забіты катамі, ажыў.

4
Быў дзень. Я ў сад пайшоў зялёны
Да зруйнаваных кляштароў.
Вітаў відомы дух ягоны
Між сцен знямелых і муроў.

## ЧЫРВОНЫЯ КАМЯНІ

*(балада)*

> ...Адпор тураўцаў змене рэлігіі быў адчайным... Гэтая драматычная падзея засведчана ў народных паданнях пра крывавыя камяні, што прыплылі па вадзе з Кіева...
>
> *К. Тарасаў «Памяць пра легенды”*

Ляцелі на дол галовы,
Груган над зямлёй кружляў.
«Дазволь мне вымавіць слова,—
Князю валхвец сказаў.

— Я смерці сваёй не баюся,
Не страшыць смяротная золь.
Ды толькі з Белаю Руссю,
Мой князь, развітацца дазволь...»

Ды князь не пачуў тыя словы,
І каты мячы ўзнялі...
Няскораных продкаў галовы
Па хуткай рацэ паплылі.

Як сімвал святога наймення
Наўзбоч княжых хат і двара,
На беразе стыла каменне —
Чырвонае, быццам зара.

І прысакам ля папялішча
То тут вырастала, то там.
Разбіць на кавалкі і знішчыць —
Такі быў загад ваярам.

Калі ж пасля змрочнае ночы
Зямлю азарыла святло,
Убачылі Князевы вочы —
Каменняў шчэ больш, чым было.

І стогны пачуў ён і крыкі.
Праз жах і смяротную золь
Жывыя шапталі: «Вялікі!..»
І чулася мёртвых: «Дазволь…»

## КАВА[4]

Мне сніўся сон: на полі сечы,
Дзе бітва жорсткая была,
Знянацку мне ўпілася ў плечы
Чужынца вострая страла.
Заслала вочы мне імглою.
І голас ратных згукаў сціх...
Крыжак спыніўся нада мною
І вырваў дзіду з рук маіх.
І я з палонам прымірыўся:
Што спадзявацца мне на цуд?
Ды ЕН перада мной з’явіўся
І рукі вызваліў ад пут.
І так сказаў: «Я грозны КАВА.
Нягожа быць табе рабом.
Вось меч. Або памры са славай,
Ці будзь заўжды папіхачом!»
І сілу я адчуў, і рушыў
Туды, дзе жорсткі бой кіпеў...
І за сабою чуў я мужны,
Непераможны, зычны спеў!

[4] Кава — Бог вайны ў старажытных славян.

## СВЕЧКА

Свечку запалю. Успыхне кволае цяпельца агню.
І пабягуць няўлоўныя цені духаў па шпалерах,
па падлозе, па мне. Расплаўлены воск апячэ
мне далоні. І я перасялюся ў свечку і ўспыхну
яшчэ ярчэй. У шалёным танцы замітусяцца
па пакоі духі. І народзіцца музыка.
Заплача душа. Слёзы яе воскам будуць сцякаць
на падлогу, плоць будзе біцца ў шалёным
танцы музыкі, пакуль не растане зусім.
Калі надыдзе дзень, я зразумею, што мяне больш
няма, я згарэў дарэшты. На золку
з’явіцца гаспадар і выкіне расплаўлены воск.
І ніхто не заўважыць, што няма мяне,
ніхто не пачуе, што не гучыць музыка.

* * *

Над горадам сонным — змярцвенне, і ціша, і змрок,
І толькі ў замглёных нябёсах, ледзь бачная воку,
Мігціць адзінокая зорка далёка-далёка,
І ветрык шапоча, і чуецца шолах здалёк…

То недзе ў сутонні лятуць адзінокія птахі
Да зорак далёкіх, каб з вечнасцю зліцца навек.
То — душы людскія. У свет, дзе не помняць пра жахі,
Плывуць, каб на хвілю забыцца пра здраду і здзек.

А я вось — адзін. Толькі ноч і змярцвенне навокал.
Па вуліцы znямелай іду я ў начной цішыні.
І мроіцца мне: там, у небе, далёка-далёка
Бялюткія птахі запальваюць зорак агні.

**ВЕЛЯМОС[5]**

Я помню пекла — з хлуду і дрыгвы,
І вузенькі тунель, дзе толькі на імгненне
Прамень святла злятае, і равы,
Адкуль цячэ смала, бурлівае кіпенне
Счарнелых Чыгуноў, і лямант незямны…
То Людкі[6] грэшныя свой чорны бруд змывалі,—
Усе, нібы адзін, падобныя яны
На тых, што пры жыцці і елі, і кахалі.

Я помню склеп глухі — травою ён зарос.
І трон. На троне тым — вяльможа Велямос:
Пагардліва глядзяць кудысь удалеч вочы,
А на грудзях таўро, на вуснах смех застыў:
«Ты не пазнаў мяне? Ці пра мяне забыў?..»
Забыць?.. У сны мае прыходзіш ты штоночы.
Шырокі той жа лоб і спалатнелы твар,
І чорныя вусы, і фрэнч, і тыя ж боты…
— Я помню пра цябе, народаў уладар,
Як помняць пра цябе і ўдовы, і сіроты.
Ды толькі вось з табой сустрэчы не чакаў,
Не ведаў я, што ты і тут вялікім стаў.

…Тут дзверы рыпнулі, і скалануўся трон.
І ўбачыў я, як валадар мой, ЁН,
На дол халодны вокамгненна ўпаў…
Ен ногі новага ўладыкі цалаваў,
Так молячы: «Памілуй, Велямос!»

Я помню людкаў, што ішлі без слёз
Па вузкаму тунелю… Сярод іх—
І ЁН, вяльможа, раб. У нейкі міг
Здалося мне — я зноўку на зямлі:
Падворак, рэчка, сенажаць, палі,
Сібір, калючы дрот, натоўп нямы,—

---

[5] Велямос — Бог замагільнага свету ў беларускай і літоўскай міфалогіі.
[6] Людкі — душы людзей.

Не людзі — Людкі сярод той зімы
Ідуць, ідуць скрозь ноч і злы мароз…
…А над усім, на троне — ВЕЛЯМОС.

**ПАСТКА**

Яе я ставіў на пацукоў.
Сёння сам я патрапіў ў Яе.
Нехта і на мяне паставіў пастку.
І вось я курчуся ў ёй,
намагаючыся хутчэй выбрацца адтуль на волю,
ды сіл не стае.
Я чакаю свайго прысуду...
З хвіліны на хвіліну, здаецца мне,
павінен з'явіцца мой мучанік з тварам пачвары і...

(Божа, які ж у мяне твар?)
Што ён зробіць са мною?
Гэта не сон.
Насупроць мяне сядзіць тлусты пацук:
у адной лапе ён трымае мех,
у другой — завостраныя драўляныя вілы...

## ДЗЯВОЯ

Там, дзе смех серабрысты гучаў штохвіліны,
Не сціхалі дзіцячыя гульні і скокі,
Зараз ціша: дом гэты вясёлы пакінуў
Дух дзіцячых забаў — дом цяпер адзінокі.

Вечарамі самотна глядзіць на аблокі,
Што плывуць у вясёлую дзіва-краіну,
І ўсё слухае, слухае лёгкія крокі:
Гэта дзіўная пані шукае дзяўчыну.

Ды не можа яе адшукаць — і ў адчаі
На пустую канапу яна пазірае
І не можа заснуць давідна.

І не можа зусім зразумець і не хоча.
Што пакінула дом той дзяўчына аднойчы,
Што дарослаю стала яна.

* * *

Вулкі старыя. Самотныя спевы аргана.
Вострая брама. Ледзь чутныя крокі. І — змрок.
Поўня згарэла ў нябёсах. Да ніткі прамок.
Недзе — цягнік... Есць квіток... Ды вяртацца зарана.

Нібы жабрак, завітаю пад сховы касцёла.
Слухаю спевы. Між хору дзяўчат і мужчын
Твар твой прымрою — узбуджаны, светлы, вясёлы.
І пасміхнуся: як добра, што я не адзін!

Вулкай пакрочу. І дождж будзе гнацца за мною,
Чорны асфальт, і дамы, і людзей цалаваць.
Вострая брама. Вакзал. Недзе там, за спіною,
Цень мой блукае, не можа мяне адшукаць.

**АДБІТАК**

Маленькі, хцівы чалавек пазірае на мяне з люстэрка:
пасміхаецца з маёй сталасці,—
маўляў, не паслухаўся мяне і вырас,
цяпер жыві ў чэрствасці і мане,
са сваёй агідай да людскіх правілаў і турботаў.
Ен і сёння не дае мне спакою — крыўляецца і крычыць:
«Я пазнаў цябе, я пазнаў цябе! Гэта ты, хлапчуком,
выкінуў праз акно плюшавага мішку…»
Шпурляну ў яго камянём.
…Зноў патрапляю ў сябе.

**КАТОЎНЯ**

Крывавыя ланцугі рве маўклівая цішыня.
Здушаны вяроўкаю крык віецца між мураваных сцен
у пошуку пятага кута, што ўзведзены з чалавечых целаў.
МЯНЕ ТАМ НЯМА.
Там застаўся мой позірк, белаю плямаю сонца
высвечаны на кратах.
Там засталася мая душа, якая штохвілю сцякае слязьмі
ў бяздоннае рыштаванне часу.
Там засталася мая памяць — чорная і халодная, як лёд,—
прыкаваная сталёвым ланцугом да слізкай падлогі —
слізкай ад крыві, нянавісці і маны.
МЯНЕ ТАМ НЯМА.
ДЫ ЯНА — УВА МНЕ.

* * *

Праз люстэрка часу праламляецца жыццё.
Яшчэ не народжаны,— я ўжо памерлы,
а памерлы — уваскрэснуўшы для новага прадаўжэння роду:
для болю, які дорыць асалоду, а асалода — боль;
для кахання, якое нясе здраду, а здрада — каханне;
для смерці, што прыносіць супакой, а супакой — смерць.

Хто Я?
Хто МЫ?
Хто ЯНЫ?
Як ні ўзірайся ў люстэрка — яно не адкажа.
ЧАЛАВЕК — ПАЧВАРА — БОГ.
Ці наадварот?
Кожны міг — новае адлюстраванне.
Кожны міг — іншы чалавек ці звер.
Неабсяжнае кола.

* * *

Штовечар, калі ноч рукой халоднай змроку
Запальвае ў нябёсах зор агні,
Іду я на клады, ад дому недалёка,
Каб аднаму пабыць у цішыні.

Каплічку праміну, знямелы крыж, што збоку
Ад часу спарахнеў. Тут подпісы радні
Пасцёртыя, майму не бачны зроку.
Тут у нябыт плывуць павольна дні.

Усё тут навакол жальбой і жахам вее,
Ды сэрца не гняце відовішча яго,
Бо розум мой прамень надзеі грэе,

Што жыць мне на зямлі яшчэ не дзень, не год.
Калі душу маю пакіне ўсё ж надзея,
Спачну я там, дзе край мой і народ.

**ЗМЕСТ**

## З ТВАІХ ДАЛОНЯЎ

СТОДЗІВЫ

Дэбіш А.

Стодзівы: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1995. — 110 с. — (Першая кніга паэта).

ISBN 985-02-0052-9

Вершы брэсцкага паэта Анатоля Дэбіша поўныя імкнення спазнаць таямніцы быцця, даць вобразнае найменне састаўным яго часцінам. Адчуванні паэта, імпрэсіі, шчымліва-роздумны стан яго душы навеяны духоўнымі рэаліямі: журлівай восенню, ласкавай вясною, згадкамі пра маленства.

Чытач прыме гэтую першую паэтычную ластаўку таленавітага паэта з належным разуменнем і ўвагаю У назве кнігі знайшло сваё адлюстраванне чароўнае святло беларускай міфалогіі.